



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (1062) ГОД XXI БЕЛАСТОК, 4 ЛІПЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


# ГАЙНАЎКА НАШЫХ ДЗЁН


*Жылы дом на вуліцы 1 Мая.*

Гайнаўка, вядомы не толькі ў нашым ваяводстве, але і ў краіне цэнтр драўніннай і мэблевай прамысловасці, з кожным годам становіцца ўсё больш сучасным, прыгожым горадам. Хутка растуць новыя жыллёвыя пасёлкі, якія найбольш змяняюць аблічча горада, а таксама гандлёвыя магазіны, цэнтры паслуг.

Прыемна прайсці сцяжынкамі-алейкамі між шматпавярховымі будынкамі абжытых жыллёвых пасёлкаў: „Міленіум“, які знаходзіцца ў цэнтры горада, і „Гайнаўка I“ у раёне вуліц Вызвалення, Леніна і Ажэшковай. Многа тут розных крамаў і гандлёвых павільёнаў, паслуговых цэнтраў, ёсць рэстаран „Гайнавянка“, бар. На гэтых пасёлках блокавыя камітэты паклапаціліся пра пасадку дрэўцаў, кустарнікаў, кветак, пра чысціню дарожак, пляцовак для дзіцячых гульняў, лавачак для адпачынку.

У трохвугольніку вуліц: 1 Мая, Леніна і Рэя расце наймалодшы пасёлак „Гайнаўка II“. У першых будынках, перададзеных у карыстанне, жывуць ужо навасёлы. Усіх блокаў будзе тут дзеваць. На гэтым пасёлку будуюцца павільёны сферы абслугоўвання, рэстаран, гаражы.

На асаблівую пахвалу заслугоўвае вялікая грамадская актыўнасць жыхароў Гайнаўкі. Яны многа папрацавалі пры пабудове вуліц, добраўпарадкаванні горада. Па іх ініцыятыве ўпарадкаван пляц, дзе знаходзілася яшчэ не так даўно смалярня, і так атрымаўся прыгожы, даволі вялікі бярозавы парк і не менш прыгожы парк 30-годдзя.

Рабочыя аўтобуснага вакзала ПКС прывялі ў парадак аўтобусныя стаянкі і каля іх пасадзілі першыя ў гэтым месцы кветкі.

Горад атрымаў новыя крамы ў блоку пры вул. Варынскага, „дэлікатэсовы“ магазін у блоку пры вул. 1 Мая, фірмовыя крамы пры вул. Варынскага, прыгожую, арыгінальна абсталяваную кавярню „Верас“ ды цэнтры найбольш неабходных паслуг па вул. Леніна.

Цешаць вока кожнага прахожага кветкі на клумбах на невялічкіх скверыках у розных кутках горада, насупраць установ і прадпрыемстваў, на разгалінаваннях вуліц.

Асфальтаваныя палотны вуліц таксама харошаць горад.

Прыемна на вул. Рэя, на якой не так даўно пралажан асфальт, на адрамантаваных вуліцах Дварцовай (тут густы жываплот), Простай, 1 Мая, Бучка, Варынскага.

Будзе яшчэ шмат чаго новага.

Вялікая змена прадбачваецца на пасёлку „Хімічнай“, дзе на месцы старых аджыўшых свой век будынкаў будзе парк.

Плануецца таксама ўпарадкаванне ў першую чаргу шматлікіх невялікіх пасёлкаў: Заходнія і Паўночныя Пашкі, Міжторы, Мазуры, Пляцоўка, Горнае і Усходняя Ліповая.

Будуць ліквідаваны старыя будынкі па галоўнай вул. 1 Мая. Уступяць яны месца новым жылым блокам і найбольш неабходным у гэтай частцы горада гандлёвым павільёнам.

Новыя тратуары будуць пракладзены на вул. Варшаўскай на адрэзку ад вул. Вызвалення да пасёлка Юдзянка, а таксама на вул. Бельскай, дзе апрача таго будзе пабудаваны дашак на аўтобусным прыпынку ПКС.

У грамадскім чыне будзе адрамантавана вул. Врублеўскага. Новае, больш сучаснае асвятленне атрымае вул. Спартовая. Да таго паабапал яе будзе пасаджаны жываплот.

Добраўпарадкаванне Гайнаўкі ляжыць у інтарэсе ўсіх. Гэты горад наведвае ўсё больш краёвых і замежных турыстаў, якія накіроўваюцца ў турыстычную, усё больш папулярную Белавежу. Ды і самім жыхарам Гайнаўкі прыемней жыць у чыстым і ўпарадкаваным горадзе, які славіцца мэбляй і іншымі вырабамі з драўніны.

**Я. Цялушэцкі**


*Жылы дом ля вуліц Вызвалення і Ажэшка.*


*На вуліцы Леніна.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Мы пасталелі, перад намі новыя заданні ● Назначаю цябе рабочым ● На радзіме праз 50 гадоў ● У свеце магіі і забабонаў ● Хрысціны „Арэшкаў“ ● Як у Парцаве краму будуюць ● У доме культуры ў Войшках ● Весткі з Беластока, Гайнаўкі, Бельска, Тапаркоў, Крываціч, Трасцянкі, Белавежы, Чаромхі ● Калі сняцца тараканы ● Песня „Люблю наш край“.**

## VIII з'езд БГКТ



# ПАСТАЎЛЕНЫЯ ЗАДАННІ ЎСПРЫЙМАЕМ З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ

**(ВЫСТУПЛЕННЕ ДЭЛЕГАТА З ГАЙНАЎКІ АЛЯКСАНДРА ІВАНЮКА)**

Папярэдні, VII з'езд БГКТ, прыняў шэраг важных пастаноў, якія далі напрамак далейшай працы нашай арганізацыі. Адной з гэтых пастаноў была замена 3-гадовага перыяду склікання чарговых з'ездаў на 4-гадовыя. Практыка паказала, што гэта было карысным для нашага таварыства. У бягучым годзе якраз кончыўся гэты 4-гадовы перыяд. Традыцыйна ўжо, перад з'ездам адбылася ў нашай арганізацыі справаздачна-выбарная кампанія. Гэтая важная ў жыцці БГКТ падзея на гэты раз мела асаблівы характар: адбывалася яна ў атмасферы юбілею 20-годдзя нашага таварыства. Гэты факт даў нам не толькі адпаведную нагоду, але і глыбокую патрэбу правесці ўсебаковую ацэнку дзейнасці, паказаць нашыя дасягненні і недахопы, вызначыць напрамкі і формы працы на будучыню. Як на папярэднія, так і на сённяшні з'езд Галоўнае праўленне, кожны гурток і кожны з нас прыйшлі з падвойным пачуццём: па-першае, з пачуццём добра выкананага абавязку, па-другое, з адчуваннем пэўных недахопаў у нашай працы. Але справа заключаецца ў тым, у якіх прапорцыях знаходзяцца гэтыя дзве вартасці, г. зн. дасягненні і недахопы. Абагульняючы справу, трэба падкрэсліць, што нашыя дасягненні за 20 год аграмадныя, іх ні ў чым не могуць засланіць недахопы. Сёння БГКТ — гэта вялікая арганізацыя са звыш 6 тысячамі членаў, згуртаваных у 187 гуртках, станоўчай з'явай з'яўляецца і тое, што 70% членаў нашай арганізацыі — гэта людзі маладыя.

Побач з усім тым, што робіць карыснага БГКТ, найбольш важным з'яўляецца сам факт існавання таварыства. Якраз існаванне БГКТ дазваляе кожнаму з нас унесці свой уклад працы ў карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, нашага беластоцкага рэгіёну і ўсяе нашай дзяржавы. БГКТ з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам рознабаковай дзейнасці, якая заспакайвае нашыя духовыя запатрабаванні. З БГКТ звязана „Ніва“, якая адыгрывае вялікую ролю ў нашым асяроддзі. З таварыствам звязаны такія формы дзейнасці як самадзейны мастацкі рух, выдавецтвы, выстаўкі, акадэміі, сустрэчы, даклады і г. д.

Працяг на стар. 4




## АБАРЫГЕНЫ АЎСТРАЛІІ

26 студзеня 1788 года на зямлю Аўстраліі ўступілі першыя белыя пасяленцы. На мацерыку тады было ад 300 да 500 тысяч абарыгенаў-аўстралійцаў, якія па ўзроўню свайго развіцця знаходзіліся на стадыі каменнага веку. Многія сотні гадоў жылі яны ў поўнай ізаляцыі ад астатняга свету. Умовы іх існавання былі цяжкімі. Прырода, клімат кантынента патрабавалі ад чалавека вялікай затраты сілы і энергіі, каб выжыць. І абарыгены Аўстраліі выжылі, сталі цудоўнымі следапытамі, спрытнымі паляўнічымі і рыбаловамі.

Гісторыя каланізацыі Аўстраліі налічвае шмат трагічных старонак. Жорсткае знішчэнне карэннага насельніцтва (першыя пасяленцы-катаржнікі палявалі на „дзікіх аўстралійцаў", як на кенгуру) з цягам часу ўступіла месца так званай „палітыцы ізаляцыі", вынікі якой былі не менш пагубныя. У заходняй, цэнтральнай і паўночнай частках краіны былі створаны спецыяльныя рэзервацыі, прызначаныя для астаткаў карэннага насельніцтва, колькасць якога скарацілася ў два-тры разы. Улады пастаянна праводзілі ў адносінах абарыгенаў палітыку прыгнечання і дыскрымінацыі, латыфундысты і прамыслоўцы пад выглядам „арэнды" захоплівалі іх землі. Прагрэсіўная грамадскасць краіны не раз выступала супраць падобнай палітыкі.

Лейбарысцкая партыя, якая прыйшла да ўлады ў выніку выбараў 1973 года, распрацавала спецыяльную праграму рэформ, якія датычыла абарыгенаў. У праграме было прадугледжана права карэннага насельніцтва на працу і на землі, якія належалі яго далёкім продкам.

На першым часе ўрад спрабаваў вырашыць праблему абарыгенаў толькі з дапамогай фінансавых асігнаванняў. Аднак рознага роду датацыі і субсідыі карэнным жыхарам прыводзілі часта да нечаканых вынікаў: намецілася тэндэнцыя пераезду абарыгенаў ў гарадскія раёны, і ў некаторых гарадах Аўстраліі ўзніклі „гета абарыгенаў" з усімі ўласцівымі ім атрыбутамі — перанаселенасцю, алкагалізмам, злачыннасцю.

У выніку становішча абарыгенаў практычна амаль не змянілася. Яны па-ранейшаму падвяргаюцца жорсткай эксплуатацыі. Паводле афіцыйных даных, 9 з 10 абарыгенаў, не маючы спецыяльнасці, працуюць у якасці дамашняй прыслугі ці жывуць выпадковымі заробкамі. Большасць з іх непісьменныя ці малапісьменныя. Абарыгенаў да гэтай пары лічаць людзьмі „другога сорту", і гэтую „ідэю" ўсяляк падтрымлівае друк.

Таму прагрэсіўная грамадскасць краіны працягвае барацьбу за раўнапраўе абарыгенаў.

С. Ф.

## ЯШЧЭ АДНА „ЗАГАДКА ПРЫРОДЫ"

Згуртаванне легендарных жывёлін, існаванне якіх на зямлі навукай дакладна яшчэ не ўстаноўлена, папоўнілася новым членам. Гэта гіганцкая шэрая птушка з размахам крылляў да сямі метраў і тулавам даўжынёй каля двух метраў, якая жыве, паводле расказаў, у стэпавых прасторах Паўднёвага Тэхаса.

Жыхар горада Ларэда (штат Тэхас), Артура Радрыгес рыбачыў нядаўна разам з пляменнікам на рэчцы Рыо-Граўдэ, калі пачуў незвычайны шум, які нагадваў гучны шолах лісцяў, а затым убачыў лунаючае ў паветры „страшыдла". Апанаваныя страхам, рыбакі пусціліся наўцёкі. У той жа дзень гіганцкую птушку бачыў нехта Раберта Гансалес, які праязджаў па шашы, што пралягае ўздоўж ракі.

Паведамленне аб гэтым, якое з'явілася ў мясцовым друку, знайшло шырокі водгук сярод тэхасцаў. Аказалася, што аб птушцы ведалі многія і што былі нават сфатаграфаваны сляды яе ног. Хесус Марцінес, жыхар гарадка Дона, заявіў, што бачыў птушку яшчэ пяць гадоў назад, але тады нікому не расказаў аб ёй, баючыся стаць пасмешышчам.

У адрозненне ад гімалайскага „снежнага чалавека" і загадкавай шатландскай „Несі" ў жыхаркі тэхаскіх стэпаў няма пакуль што яшчэ гучнага імя. Яе завуць проста „вялікая птушка".



# Цётка

## (Алаіза Пашкевіч)

*„На магіле ўзыйду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песняй у народзе."* *

Трэцяга ліпеня гэтага года мінае сотая гадавіна з дня нараджэння беларускай паэтэсы Алаізы Пашкевіч, вядомай у літаратуры пад псеўданімам Цётка. Нарадзілася яна ў вёсцы Пешчына былога Лідскага павету ў сям'і даволі заможнага селяніна Стэфана Пашкевіча. З трох да дзевяці год разам з малодшым братам жыла ў фальварку Тэрэсін пад апекай бабкі і няні Ягасі, якая вынянчыла ўсіх дзяцей Пашкевічаў. Пасля смерці бабкі бацька забраў малую Алаізу ў вёску Стары Двор. Ужо ў Тэрэсіне праявілася ў яе цяга да кнігі. Ад бабкі навучылася яна пісаць ды чытаць па-польску.

Фальварак Тэрэсін, а таксама і Стары Двор знаходзяцца ў цудоўным кутку Беларусі. І гэта мела вялікі ўплыў на фарміраванне ўнутранага жыцця будучай паэтэсы ды абуджала любоў да родных пейзажаў. Няроўна падзеленыя абшары палёў ды лясоў, якія навокал распасціраліся, безупынна нагадвалі ёй аб сацыяльнай несправядлівасці і эксплуатацыі. Бачыла яна цяжкую працу парабкаў на чужым полі, і гэта часта даводзіла да канфліктаў паміж ёй і бацькам, на полі якога таксама працавалі гэтыя бедныя людзі. Вось менавіта ў такой акрузе фарміраваўся характар ды светапогляд будучай паэтэсы.

Сярод сваіх сясцёр і братоў (усіх было сямёра) Алаіза вылучалася вялікай здольнасцю да навукі. Бацькі, заўважыўшы гэта, пачалі запрашаць дахаты настаўнікаў, а калі споўнілася ёй 16 год, у 1892 г. паслалі яе ў Вільню, дзе рыхтавалася да экзаменаў у гімназію. Аднак з увагі на анемію, якую выкрылі дактары, яна вымушана пасля двух год перарваць вучобу і вярнуцца ў вёску, дзе пачала працаваць настаўніцай. І толькі ў 1902 г. удалося закончыць гімназію і атрымаць званне хатняй настаўніцы арыфметыкі. Веды, атрыманыя ў гімназіі, не задаволілі яе. Паехала ў Пецярбург ды паступіла на агульнаадукацыйныя курсы Лесгафта, вядомага вучонага і зацятага ворага самаўладства. Курсы Лесгафта былі прыстанішчам найбольш прагрэсіўнай моладзі Расіі. Знаходзячыся ў такім асяроддзі, Цётка пачынае ўсведамляць, што неабходна знішчыць існуючы лад. У 1904 г. Цётка пераехала ў Вільню і распачала рэвалюцыйную дзейнасць сярод жанчын, а ў маі 1905 г. нелегальна едзе (як дэлегат) у Маскву на з'езд жанчын, дзе выступае з гарачымі прамовамі аб нядолі беларускага народа і цяжкай працы „сястры-сялянкі". У гэтым жа годзе становіцца яна членам рэвалюцыйнай арганізацыі, што дзейнічала ў ваколіцы Нова-Вілейска (зараз Новая Вільня). Аднак, дзейнасць не працягвалася доўга. У сувязі з арыштамі, якія распачаліся 19 снежня 1905 г., Цётка была вымушана пакінуць Беларусь і пасялілася ў Галіцыі ў горадзе Жоўтаве каля Львова, дзе ў 1906 г. выдала два зборнікі рэвалюцыйных вершаў „Хрэст на свабоду" і „Скрыпка беларуская". З біяграфічных вестак вынікае што, будучы ў Галіцыі, у другой палове 1906 г. Цётка прыязджала нелегальна ў Беларусь і прымала ўдзел у выдаванні „Нашай долі". Але пасля закрыцця газеты зноў выехала і ўладкавалася вольным слухачом на філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта. Там пачала цікавіцца фальклорам і гісторыяй Беларусі. Хацела таксама заняцца выданнем кніг для беларускіх сялян, аднак задумы гэтай ажыццявіць не змагла, таму што захварэла на сухоты і была вымушана пераехаць у Закапанэ. У гадах 1908—1909, будучы ў Кракаве і Закапаным, паступае на гуманітарны факультэт Кракаўскага універсітэта. І толькі ў 1911 г., калі выйшла замуж і змяніла прозвішча, змагла вярнуцца ў Беларусь. Занялася яна тады рэдагаваннем часопіса для дзяцей „Лучынка", а калі распачалася імперыялістычная вайна, пайшла працаваць міласэрнай сястрой у тыфозны барак. У студзені 1916 г. едзе ў Стары Двор наведаць хворага бацьку. У гэты час лютавала там эпідэмія тыфу. Цётка захварэла і ў ноч з 3 на 4 лютага 1916 г. памерла.

Сярод беларускіх пісьменнікаў, якія распачалі сваю творчасць у дарэвалюцыйныя гады, прозвішча Цёткі займае адно з пачэсных месц. Разам з такімі пісьменнікамі, як Я. Колас і Я. Купала ўзначальвае яна рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак у беларускай літаратуры. Свае творы адрасуе да сялян. Ставіць перад сабой мэту такога мастацтва, якое б служыла працоўнаму народу. Жадае, каб яе творы ляцелі ў вёску і абуджалі дрэмлючы народ. Праглядаючы ад пачатку да канца творчасць Цёткі, адразу кідаецца ў вочы яе служэбнасць для народу. Спачатку вершы былі толькі вобразамі тагачаснай вёскі („Лета"). Потым паступова пачалі паяўляцца элементы бунту супраць тагачаснага сацыяльнага ладу („Арлы-брацця"). Вялікае месца ў яе творчасці займае таксама фальклор. Малюючы партрэт вёскі, часта прыбягае яна да народнай творчасці. Цётка з'яўляецца таксама аўтарам многіх лірычных вершаў. Вялікай заслугай пісьменніцы з'яўляецца развіццё такога жанра, як кароткае апавяданне. Падсумоўваючы, трэба сказаць, што ўся яе творчасць прасякнута рамантыкай змагання за свабоду народа.

**М. Шаховіч**

---

*) Словы з верша „На магіле". Высечаны яны на помніку Цёткі, які стаіць у вёсцы Стары Двор.



*БЕЛАРУСКІЯ ГАРАДЫ. Мінск, палац культуры трактаразаводцаў.*
*Фота В. Казлова.*




**Sobota 3.VII.** 8.40 Pr. I prop. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Kurs pierwszy, kurs ostatni — film fab. radz. 10.50 Inf. Wyd. 11.05 Kółko i krzyżyk — teleturniej. 11.30 Jarmark pieśni i tańca — Mielec 76. 12.10 Za kierownicą. 12.30 STUDIO 2. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 STUDIO 2.

-※-

**Niedziela 4.VII.** 7.20 Tech. Rol. Specjalizacja produkcji roślinnej. 7.40 Najtańszą paszą — pastwisko. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Kino Najmłodszych. 9.30 Antena. 10.00 W starym kinie. 11.45 Dzien. 12.05 Ostatni wolni Indianie. 12.40 Nie taki diabeł straszny — program muz. 13.15 Z kamerą wśród zwierząt. 14.30 Studio Montreal 76. 15.10 Film dok. 15.40 Los. Duż. Lot. 15.55 Film fab. 17.05 Wszystko za wszystko z prof. M. Karasiem. 18.15 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 19.20 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Film fab. 22.00 Sport.

-※-

**Poniedziałek 5.VII.** 8.00 Program na dzień dobry. 15.45 Pr. dnia. 15.55 Kino Zwierzyńca. 16.20 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 16.50 Publ. sportowa. 17.20 Rodzina — pr. publ. 17.50 Ostatnia rozgrywka — film ser. bułg. 19.00 Pr. publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: R. Ibrahimbekow — Spotkanie. 21.30 Świadkowie. 21.50 Dziennik. 22.05 Pr. muz. taneczny.

-※-

**Wtorek 6.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 10.00 Film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lekt. Pegaza. 17.20 Na wielkim i małym ekranie. 17.40 Studio Młodych. 18.40 Księżycowe zagadki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Paryscy Mohikanie — film ser. 21.25 Interstudio. 22.10 Dziennik. 22.25 Poezja śpiewana.

-※-

**Środa 7.VII.** 9.00 Pr. na dzień dobry. 9.30 Paryscy Mohikanie — film ser. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Popołudnie najmłodszych. 17.40 Los. Mał. Lot. 17.55 Pr. publ. kulturalnej. 18.50 Forum korespondentów. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zielony obiektyw. 20.30 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 76. 22.00 Spotkania z medycyną. 22.45 Dziennik.

-※-

**Czwartek 8.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Film fab. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Teleferie. 18.10 Poligon. 18.35 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 76. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Podróże detektywa — film ser. ang. 21.15 Pegaz. 22.00 Dziennik. 22.15 W kręgu muzyki francuskiej.

-※-

**Piątek 9.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Podróże detektywa — film ser. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przed ekranem. 17.35 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 18.05 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 76. 19.05 Kronika Igrzysk Młodzieży. 19.20 Dobr. 19.30 Dziennik. 20.20 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 76. 21.15 Drogowskazy. 22.00 Dziennik. 22.15 Ekran i Życie.




**Piątek 2.VII** — 14.20 Film fab. 17.25 Koncert. 17.55 Film fab. 19.30 Festiwal „Białe noce".

**Sobota 3.VII** — 11.10 Koncert. 12.50 Film dla dzieci. 15.00 W świecie zwierząt. 16.15 P. nożna. Dynamo (Moskwa) — Szachtior. 18.15 Spektakl. 19.30 Spektakl film.

**Niedziela 4.VII** — 11.30 Spektakl dla dzieci. 14.00 Koncert. 15.30 Panorama międzynar. 16.15 Film anim. 16.50 Film z Chaplinem. 17.30 Piosenka—76. 18.00 Klub film. 19.30 Orkiestra symf.




**Białowieża** Mr. Majestyk — USA 6—7. Rozwód — NRD 8—9. Sędzia z Texasu — USA 10—11.

**Czyże** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 7—11.

**Dubicze Cerkiewne** Rodzinny gang — wł. Trzej świadkowie — czes. 7—11.

**Gródek** Czerwone i białe — pol. 10—11.

**Kleszczele** Królewna w oślej skórze — fr. 6—7. Przeciw Kingowi — radz. 8—9. Horoskop szczęścia — czes. 10—11.

**Michałowo** Dni miłości — mek. 6—7. 40 karatów — USA 8—9. Droga Luiza — fr. 10—11.

**Mielnik** Mściciel — USA 7. Doktor Judym — pol. 10—11.

**Milejczyce** Martwa fala — pol. 6—7. Miłość bywa zbrodnią — fr. 8—9. Dulscy — pol. 10—11.

**Narew** Jarosław Dąbrowski — pol. Wielka noc i wielki dzień — czes. 7—11.

**Narewka** Czerwone i białe — pol. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — wł. 7—11.

**Nurzec** Łobuz — fr. 6—7. Rudy lis — NRD. 8—9. Granica miłości — węg. 10—11.

**Orla** Kalina czerwona — radz. Drogi do ojczyzny — pol. 7—11.

**Rajsk** Legenda o Pauli i Paulu — NRD. Co doktorku — USA 7—11.

B.Z.Graf. Zam. 1472 F-2.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 210

*

Памятаеш як вецер
рваў пальцамі хмары
каб сонцу паказаць
наш пацалунак
а ты спалохалася моцна
калі праменні нечакана
ударылі у заплюшчаныя вочы
а клёны гойсалі над намі
шапталі што добра цалуемся
далонямі пляскалі шумна
яшчэ яшчэ яшчэ
давай туды яшчэ вернемся
не адплюшчвай толькі вачэй

**Алесь Барскі**

*

З цягам часу разумею болей
І кахаю я штораз шчырэй
Заваражаных шырокім полем
Працавітых сялянскіх людзей.

Мне таксама ў непагадзь і спёку
Поле роднае — шчыры сябра.
Залатыя зерні руку просяць
У раллю, да новага жыцця.

Я не раз ускалыханы ветрам,
У траве разбойнаю касой,
На пракосы клаў жывыя вершы,
Выціраючы пот рукавом.

І не раз засмяглымі губамі
Прагна піў зямліцы сок — ваду.
Гэтак п'юць стамлёныя сяляне,
Тыя, што краіне хлеб даюць.

І, здаецца, праўдай будзе мара,
Так, як праўдай жыцця майго сэнс.
Пра мяне калісь напэўна скажуць:
Беларускі сялянскі паэт.

З цягам часу разумею болей,
І кахаю намнога шчырэй
Заваражаных шырокім полем
Працавітых сялянскіх людзей.

**У. Гайдук**

*

Здаецца самому —
Добра...
калі б
Не людзі
адурманьвалі.
Плявузгамі, грубіянствам
Абсталяваўшыя
сваё
„высочаства" ў тлуме
абарваных
з душы...
бесклапотныя адпачываюць
у кабуры
сваёй
Закачанелай на росквіце
абяцанняў — лепш будзе...
Надарваныя пачуццем
К а н ц а
Занемагаюць —
— у панчоху не схавае
Ніхто таго,
Што на пачатку,
на заранні самым
Чалавека
чорны колер
адзначыў
Абяцаннем зямлі...
Роўнай меркай
Абніме яе і
прыкіне, аддасць
У арэнду навекі.
Без грошай,
паціху...
Будзе ціха...
Зашуміць толькі
Песня недапетая,
зашуміць
І захлынецца глыбока
ў зямлі...
Чорны колер яе
на прадвесні пісаў.

**Юрка Харкевіч**

*

калі даваць
дык усім сэрцам
шчыра
калі смяяцца
то ўсёй душою
не лісліва
як цалаваць
не юдушкі губамі
а калі плакаць
не так
абы з нагоды
а ўжо раўсці
як восенню прырода
у смяротнай пасцелі
каб усе пачулі
й зразумелі
так як сябе мы
разумеем
што
ні смяяцца
ні даваць
ні плакаць
ані цалаваць
не ўмелі мы
й не ўмеем

**М. Шаховіч**

*

Дайце
мне
кувалду
Вялікую
як
слова
Прасторную
як
думка
Вызубрыць
я
хачу
У сэрцах
усіх
падлеткаў
Любоў
да
пракажоных

**„Ваву"**

*

Непагадзь летняя
парк мокры
шэры
дарожкі пустыя
ты
я
і дождж
успаміны
поезд
скурчыўся у цемрадзі
а жыццё
абмінае станцыі
мы
не чакаем сябе
у марах замкнутых
у сэрцы
прага
забыць
вера у маладосць
сябе ашукваем
шчасце дастаць
мы не чакаем
сябе
манаю
кінутай
у цемрадзь
верым
дрыготкі
шум парку
жыве яшчэ
ў нас

**Вераніка Леанюк**

## ЗЛАПАЎ? НЭ!

Молоды
месэць
поўз
по нэбі.
сміяўся
з мэнэ
троху
а я быў
злосны
што
злапаты
ёго нэ могу.

**П. Кірызюк**

## ЗЯЛЁНЫЯ ВОЧЫ

Як
веснавая трава
зялёна-ясныя яны
У іх
хаваецца усмешка
Яскрава адбіваюцца
праменні сонца
Глыбіні вачэй
дасягаюць
патанаюць
рукі сонца
Позірк
зялёных вачэй
гарызонт кранае
і ідзе ідзе
ўсё далей і далей
у марах
Зялёныя вочы
ўяўляюць
цямнеюць
Палатно імглы засланяе
свежы, зялёны колер
Яны матавыя
І далёка яны
Бачаць далёкія краі
вялікія пушчы
Сяброў бачаць
краіны дзе іначай
людзі жывуць
І зноў вяртаюцца
да свайго жыцця
Праўда...
вочы спакойна
яе прымаюць
якой бы не была
Вачэй не палохае
людзей іншых слава
У зялёных вачах
павага
задуменне
над працай, людзьмі...
над... усім.
Зялёна вочы
адбіваюць
радасць
смутак
Яны ўмеюць гаварыць
Паглядзець ў іх
— без канца — глыбіню
зразумець іх мову
зглыбіць тайны жыцця
зялёных вачэй

**Ірэна Баравік**

## Я, ТЫ, ВУОН

анэ вуон на мойуом
анэ я на твойуом

ні за што і за нэколі
нэ заплатімо

нэколі і нэ за што
нэ зуміэемо

головою нэ нашою
рушыті як нашою

а
гдыбы гдыбы
то тож на нібы.

**З. Сачко**

*

Не проста сена воз, а толькі так:
Пахучая травамядовая гара
Паўзе дарогаю маўкліваю аж страх
За Магаметам — соннаю кабылаю.

А можа гэта — трава забыцця
Прызначана лёсам сляпым жывёле?
Не ўспамінаюць ні коні, ні карова-цяля,
Не наракаюць на цяжкую долю.

Што варта хвіліна такога жыцця
Звяругі, быдла, нікчэмы?!
Не ешце, не ешце травы забыцця!
Стварайце культуру — і тэарэмы.

Не проста сена воз, а цяжкая гара,
Палыні стог, атруты конь Траяна
Паўзе дарогаю запыленай аж страх
У вёску страшнай сілай кіраваны.

**Янка Чыквін**

## СЛАВА

слову роднаму, што выпесціла ніва
ды песням саматужным нашых песняроў;
іх мілагучнасці, мелодыі чуллівай,
што рэхам неслася над рэчкай гаманлівай,
ды разлягалася над пожнямі палёў...
Як звон касы, як шум бярозкі гонкай
на долю даўнюю сваю ты наракала,
дзядоў маіх ты сталася гамонкай —
іх мовай спеўнай, пераліўнай, звонкай,
што для мяне чароўнай песняй стала...
Маёю ты была калісьці калыханкай,
што песняй навучыла першых цёплых слоў;
я палюбіў цябе ад самага заранка,
а потым ты маёю сталася вяснянкай —
істокам гучнасці радзімых песняроў...
Мне мовы бацькавай ніколі не забыцца,
што працу шанаваць і праўдай жыць
вучыла...
Якой жа мудрасці была ты мне крыніцай?
Ды як жа мне табой не ганарыцца,
калі ты мне настаўніцай служыла?
О, мова сэрцава, са словамі каханай,
якою ты была дагэтуль, ад вякоў...
кахаю я цябе душою палымянай,
і покуль буду жыць, кахаць не перастану,
букеце мой пахучых сэрцу слоў...

**У. Шклярук**

## ТРЫ ФОРМЫ КАХАННЯ

Выбраў я цябе,
нібы зару,
блізкую майму існаванню,
і бачу
святло
тваіх зрэнкаў
ў кожны вечар блакітнае,
ноччу цёмнае
і досвіткам алябастравае...

*

Буду заўжды з табою,
і назіраю ў сонечны дзень,
прагай
уросшы ў тваё лона...
А калі здзейсніцца
новае жыццё —
ў ім будзе нашае сэрца,
пульсацыя нашай крыві
і ўсе нашыя мыслі —
як лук напружаны
ад ўчора да заўтра,
як адсеянае насенне
залацістых каласоў...

*

Дазволь аддаваць табе
сябе
ў мудрай мэце — спальвання
і ў разумнай турбоце
за штодзённы хлеб
і цвет лотаса ў тваіх валасах...

**Багдан Смыла**

## Блакітная паляна

У лесе ціха і хораша. Разваліўшыся, як асілак, дрэмле кражысты дуб. Асіна лісткамі шалясціць. Сасна, як бронзавая дзяўчына на пляжы, выцягнулася да цёплага сонца. А я ляжу ў высокай, сакавітай траве і сачу за божай кароўкай, якая паўзе ўверх па былінцы. Даткнуўся да яе пальцам — прыкінулася мёртвай і ўпала на зямлю.

Сёння нядзеля, і мы ўсёй сям'ёй выехалі, як гавораць, на лона прыроды. Ля куста ядлоўца астываё матацыкл. Ад яго вее жарам і бензінам, што вельмі моцна нагадвае гарадскую духату. І пачынаеш яшчэ больш радавацца тонкім запахам жывіцы, скрыпеня і чабара.

Пяцігадовая Святланка трасе блакітны званочак і з жалем пытае: — Мама, чаму ён не звініць?

Святланка адкрывае і пазнае свой свет.

А я ляжу і слухаю, як шумяць дрэвы. Шэлест лісткоў асіны падобны на гаворку сварлівай вясковай бабы, такой бабы, што пойдзе па ваду і забудзе, калі з хаты выйшла. Дуб важна ківае вяршком, нібы асуджае сваю няўжыўчывую суседку. Сасна шуміць, як вада ля млына: густа, туга, стала. Бярозка ў белай блузцы ў крапінку апусціла долу веткі-косы да зямлі, палошчацца на летнім вятры.

— Куды падзелася Святланка? — занепакоілася раптам жонка.

Усе забегалі, закрычалі...

Знайшлі дзяўчынку на блакітнай ад кветак паляне. Сярод званочкаў тырчэў белы капронавы бант. Нахіліўшы ясную галоўку, Святланка да чагосьці прыслухоўвалася. Убачыўшы нас, яна прыкладжыла маленькі пальчык да малюсенькага роціка:

— Ціха. Званочкі звіняць...

І раптам засмяялася. Брызнуў, рассыпаўся на паляне пераззвон чыстага, нібы крышталь, голасу.

Выдалася на імгненне, што і сапраўды звоняць блакітныя званочкі лясных кветак, гойдаючыся на тонкіх і высокіх сцяблах.

**Уладзімір Малашкевіч**

Пачатак на стар. 1

# ПАСТАЎЛЕНЫЯ ЗАДАННІ ЎСПРЫЙМАЕМ З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ

Як дэлегат Гайнаўшчыны хачу звярнуць увагу на тое, што ў дасягненнях усяго нашага таварыства ёсць вялікі ўклад і яго гайнаўскай арганізацыі. На Гайнаўшчыне знаходзіцца звыш трэцяй часткі ўсяго ліку членаў і 74 гурткі БГКТ. Ужо гэтыя два лікі гавораць аб тым, якія вялікія заданні выпадаюць на долю гайнаўскай арганізацыі, ад самага пачатку найбольш дынамічнай і ахвярнай. Гэта на Гайнаўшчыне нарадзілася ідэя ўтварэння Беларускага этнаграфічнага музея і нашыя актывісты сабралі найбольш экспанатаў, гэта ў нас з поспехам выкарыстоўваюцца розныя формы працы. Мы ўвесь час звяртаем увагу на павелічэнне нашай арганізацыі і ў гэтай дзялянцы маем вялікія дасягненні, для прыкладу, у 1975 г. нам прыбыло 490 новых членаў і 7 гурткоў. Павялічваецца таксама і аплочванне членскіх складчын: у мінулым годзе яно ўпершыню ў гісторыі нашай арганізацыі перавысіла 75%. Найбольшая колькасць аўтарскіх сустрэч адбываецца таксама ў нас, недзе каля 70% іх агульнай колькасці праходзіць у школах, клубах і святліцах на Гайнаўшчыне. Не выпускаем мы з-пад увагі і справы пашырэння падпіскі „Нівы“, у мінулым годзе на Гайнаўшчыне разыходзілася 3893 экземпляры нашага штотыднёвіка. Гэта ў нас нарадзілася вельмі карысная форма конкурсу сярод падпісчыкаў „Нівы“ і яна дала добрыя вынікі.

Нашую арганізацыю цяпер чакаюць важныя заданні. У сувязі з рэарганізацыяй тэрытарыяльнага падзелу краіны першапланавым нашым заданнем з'яўляецца адпаведнае наладжанне працы Галоўнага праўлення з гурткамі БГКТ. Цяпер няма ранейшых павятовых аддзелаў, і таму каб актывізаваць нашыя гурткі, а іх праца стаіць на нізкім узроўні, ГП мусіць мабілізаваць увесь актыў да працы з гурткамі. Па-другое, у гмінах неабходна паклікаць грамадскі актыў як дапаможнае звяно ў дзейнасці гурткоў БГКТ на тэрыторыі гміны. Па-трэцяе, трэба канцэнтраваць нашу ўвагу на развіцці самадзейнага мастацкага руху, каб ён развіваўся яшчэ больш шырока чым дагэтуль. Хоць у нас і лічыцца шмат калектываў, але мала ёсць такіх, якія працуюць без перапынкаў, сістэматычна, з году ў год. І якраз да паўставання такіх моцных і даўгавечных калектываў неабходна нам імкнуцца. Па-чацвёртае, заўсёды актуальным заданнем ёсць у нас выхаваўчая праца ў радах БГКТ, між іншым, таксама аплочванне складчын, бо тут не справа ў эканамічных выніках, але ў здысцыплінаванні і ўмацаванні нашай арганізацыі. Па-пятае, трэба знайсці адпаведныя формы і паслядоўна іх праводзіць у жыццё ў галіне шырокай працы з актывістамі з гурткоў БГКТ, на такое заданне ўказвае таксама і наш статут.

Кожны з'езд ставіць перад намі новыя заданні, і мы іх успрыймаем з задавальненнем, бо наша арганізацыя — гэта арганізацыя высокага грамадскага рангу, істотная для асяроддзя. Аднак ёсць некалькі спраў, якія мы ставім на кожным з'ездзе і якія не знаходзяць паспяховага вырашэння. Гэта датычыць праблемы нашага музея, які мы пачалі арганізаваць і які цяпер не існуе. Другая справа — гэта навучанне роднай мовы. Некаторыя ўважаюць, што паменшылася колькасць дзяцей вывучаючых беларускую мову з-за рэарганізацыі сеткі пачатковых школ. Хачу выясніць, што рэарганізацыя не ўплывае на змяншэнне колькасці дзяцей у школах. Але калі вышэй арганізаваная школа не вядзе навучання беларускай мовы, тады прыходзячыя ў яе дзеці з ніжэй арганізаваных школ не маюць магчымасці працягваць вучыцца роднай мове і ў такім выпадку рэарганізацыя пашкодзіла навучанню гэтага прадмета. 6 мая бягучага года ў беластоцкім куратарыуме адбылася нарада з гміннымі дырэктарамі, дзе выступае або магло б выступаць навучанне беларускай мовы. У выніку дадзеных ім куратарам указанняў, які, між іншым, заўважыў, што дабравольнасць навучання зусім не абазначае абыякавасці ў адносінах да беларускай мовы, трэба спадзявацца агульнага паляпшэння ў гэтай дзялянцы. Цяпер вельмі многа будзе залежаць ад нас саміх, ад кожнага члена нашай арганізацыі, як у далейшым стане развівацца навучанне роднай мовы ў школах.



Прачытаўшы артыкул „Цікавая знаходка“ („Ніва“ № 24 ад 13 VI 1976 г.) пастанавіў я напісаць некалькі слоў.

60 год, а можа і больш, таму назад было шмат ваўкоў. Яны нападалі на ўсю жывёлу, дабіраліся нават да хлявоў, душылі авечак, кароў, нават і коней. Людзі баяліся ўначы ездзіць, а як каму прышлося ехаць, то абавязкова ваўкі не далі спакойна дабрацца да дому. Людзі бараніліся, хто як мог. А калі чалавек не меў сродкаў абароны, дык воўк нападаў на каня. Перш хапаў за горла. Зарэжа каня, а гаспадар вяртаецца пехатою дамоў. Пачалі людзі здабываць розныя сродкі абароны. Ваўкі баяліся агню. Едучы, трэба было цэлы час паліць салому з воза. Яшчэ ваўкі баяліся груку: людзі адстрашвалі грокатам, двума каменямі, званілі жалезам, а потым вазілі званы — прывязвалі да шыі каня (яшчэ баяліся ваўкі музыкі).

Я думаю, што званы, якія знайшоў М. Васільчык, былі зроблены для адстрашвання ваўкоў, а першае слова, якога вы не змаглі прачытаць, гэта слова „на меня“. „На меня денег не жалей, со мной ездить веселей“ — бо ваўкі баяліся, калі звоніць.

Гэтыя званы і трубу, відаць, нехта набыў нелегальна, таму закапаў іх у зямлю, а потым забыў, дзе схаваў. А можа хутка памёр? І так яно да гэтага часу ляжала ў зямліцы, якая ўсё прымае.

**Э. Шчасновіч**



### БЕЛАСТОЦКАЯ МЭБЛЕВАЯ

У жніўні гэтага года пачне прадукцыю новая мэблевая фабрыка ў Беластоку. Будзе гэта адна з трох будуючыхся цяпер найбольш сучасных і найбольшых такога роду прадпрыемстваў у Польшчы. (Падобныя фабрыкі будуюцца ў Астрове Мазавецкай і Яроціне). Фабрыка будзе выпускаць розныя мэблевыя камплекты, на якія ёсць вялікае запатрабаванне.

У прадукцыйных цэхах гэтай фабрыкі ўведзена поўная аўтаматызацыя. Усе машыны тут самай высокай якасці. Асабліва шматлікія шліфавальныя станкі, пілы, прэсы.

Побач з мэблевай фабрыкай пабудавана рабочая гасцініца, адміністрацыйны і сацыяльны будынкі.

Гадавая вартасць прадукцыі беластоцкай мэблевай фабрыкі складзе суму каля 750 мільёнаў злотых.

### НОВАЯ АНКАЛАГІЧНАЯ БАЛЬНІЦА

Заканчваецца пабудова анкалагічнай бальніцы ў Беластоку. Кошт гэтай пабудовы — 34 мільёны злотых. Усе са сродкаў краёвата камітэта НФОЗ.

У новым шасціпавярховым будынку хворых будуць лячыць пры дапамозе самага сучаснага медычнага абсталявання. Анкалагічнае аддзяленне будзе мець каля 150 ложкаў.

(ця)

# ФЭСТЫН У ЛІТВІНАВІЧАХ

13 чэрвеня, так як і 6-га, выязджаў наш БГКТ-оўскі аўтобус з Варшаўскай II з аркестрам гарадскога гуртка БГКТ. У Плёсках дасела дзявочая эстрадная група, а ў Дубяжыне — мужчынскі харавы калектыў. Песня і музыка ліліся з аўтобуса, які трымаў напрамак у далёкую (каля 120 км) вёску Літвінавічы, што ў гміне Нурэц.

У Літвінавічах адчуваўся святочны настрой. Сярод вёскі на вуліцы чырвоныя і бела-чырвоныя сцягі, а на вялікім пляцы была падрыхтавана трыбуна з трох самаходных прычэп, упрыгожаная зялёнымі бярозкамі і вялікімі палотнішчамі. Над трыбунай надпіс: „XX год БГКТ і „Нівы“. З левага боку вясковая крама, а з правага — ГС-скія самаходы-ларкі, у якіх, так як і ў краме, прадавалася піва, аранжада, булкі, каўбаса і іншыя прадукты.

Сабралася шмат людзей, старых і малых, а найбольш моладзі. Да нашай гадавіны было далучана святкаванне XXX гадавіны ВОП. У 12 гадзін дня ішоў дожджык. У такіх неспрыяльных умовах і пачалася ўрачыстасць. Адкрыў яе першы сакратар гміннага камітэта ПАРП. Пасля яго з дакладамі выступілі: начальнік пагранічнай стражніцы і старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, журналіст „Нівы“ Міхась Хмялеўскі.



Калектыў з Дубяжына.



Удзельнікі фэстына.

А дожджык не меў літасці. Але выступалі салісты — Валя Шуста з Беластока і Мікалай Раманюк з Дубяжына, плёскаўскія дзяўчаты і дубяжынскі хор. Канцэрт ішоў. Артысты спявалі, гледачы багата ўзнагароджвалі іх апладысментамі.

Пасля мастацкай часткі адбыўся конкурс, звязаны з кааператыўным банкам, і паказ сучаснага бытавоіх апладысментамі.

Апошнім пунктам урачыстасці была забава ў мясцовай святліцы.

Калі б не дождж, куды цікавей было б на фэстыне. Але тут людзі ўжо прывыклі да такой пагоды, бо ўжо пяты год па чарзе, калі адбываецца ў Літвінавічах фэстын БГКТ, ідзе дождж.

У падрыхтоўцы фэстына вялікую ролю адыграў мясцовы гурток БГКТ, які ўзначальвае Мікалай Куптэль.

**М. Сваяк**
фота аўтара



# НАШАНІЎСКАЯ



# ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА І

Адным з найбольш тыповых для стылістыкі і настраёвасці нашаніўскай літаратуры быў паэт і драматург Альберт Паўловіч.

Нарадзіўся пісьменнік у мяшчанскай сям'і ў Мінску 11 лістапада 1875 года. Закончыў чатырохкласнае вучылішча і распачаў працу ў адміністрацыі Лібава-Роменскай чыгункі. Працуючы, удасканальваў сваё канцылярскае майстэрства, павышаў кваліфікацыі шляхам самаадукацыі і дзякуючы гэтаму атрымаў урэшце пасаду бухгалтара. Пасада гэта забяспечвала яму і яго сям'і сярэднезаможнае жыццё. У Паўловіча было пяцёра дзяцей. Усіх стараўся вучыць у школах, некаторых дадаткова вучыў замежным мовам і музыцы. Паўловіч быў тыповым селянінам, улюбёным у сямейную гармонію і згоду. Адзначаўся лагоднасцю характару, за што любілі яго не толькі ўласныя дзеці, але і знаёмыя. Ён быў у блізкіх адносінах з такімі беларускімі паэтамі, як Я. Колас, Ц. Гартны, З. Бядуля, М. Багдановіч. Асабліва цесныя вузлы дружбы звязвалі яго з Купалам, які часта наведваў домік Паўловіча, прыносіў гасцінцы яго дзецям.

Апрача літаратуры, займаўся Паўловіч жывапісам, а таксама вышываннем дываноў. З энтузіязмам аддаваўся філатэлістыцы і гульні ў шашкі ды шахматы.

Бадай, дэмакратычны грамадскі напрамак „Нашай нівы“ адпавядаў настроям і схільнасцям Паўловіча. Няма ніякіх фактаў, якія сведчылі б аб яго захапленні дзейнасцю палітычных арганізацый ці гістарычных падзей, якія адбываліся пры яго жыцці.

Мяркуюць, што быў Паўловіч прыхільнікам спакойнага, ураўнаважанага і гарманійнага побыту. Аднак, жыццё не заспакоіла яго густаў і патрэб. У 1932 годзе Паўловіч пакінуў родны Мінск і пераехаў у Маскву, у якой жыў да 1941 года. Ад пачатку вайны да 1945 года знаходзіўся ён на далёкім Урале.

Ад заканчэння вайны да канца жыцця пражываў у Курску. Чаму не вярнуўся ў Беларусь? Цяжка сказаць. Не можа ўсё ж быць, каб не марыў аб звароце на радзіму. Жыццё, аднак, падыктавала свае развязкі.

Паўловіч памёр у Курску 17 сакавіка 1951 года. Пахаваны ў Курску разам са сваім зяцем. На нагробнай пліце ёсць надпіс на рускай мове — „Белорусский поэт“.

Не ведаем, з якім годам звязаны першыя паэтычныя спробы Паўловіча. Першыя яго творы паявіліся ў „Нашай ніве“ ў 1907 годзе. З гэтага часу прымаў ён даволі актыўны ўдзел у беларускім літаратурным жыцці. У 1910 годзе выйшаў у свет яго першы і апошні пры жыцці паэтычны зборнік „Снапок“. У 1919 годзе Паўловіч апублікаваў драму „Васількі“. У першыя гады савецкай рэчаіснасці Паўловіч падрыхтаваў да друку другі паэтычны зборнік „Перэвеела“. Зборнік гэты меў быць надрукаваны ў Берліне, як вядома друкарская база ў Беларусі ў часе першай сусветнай вайны, рэвалюцыі і польска-савецкай вайны была ў пэўнай ступені знішчана. У сувязі з гэтым беларускі ўрад пастанавіў друкаваць кнігі ў Берліне.

Зборніку Паўловіча, аднак, не пашанцавала. Прапаў ён у нявысветленых акалічнасцях і ніколі не выйшаў у свет.

Творчасць Паўловіча не пазбаўлена цікавасці, аднак кідаецца ў вочы яе значная аднабаковасць. Пастараемся прасачыць за найбольш тыповымі яе напрамкамі.

## Фота па заказу

# ERIC CLAPTON

*Заказвалі: Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска.*

## Кансультацыя юрыста

**Пытанне.** А. атрымала акт уласнасці на сенажаць згодна з законам з 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскагаспадарчых нерухомых маёмасцей. Р. сцвярджае, што ўласнікам гэтай сенажаці з'яўляецца ён, бо карыстаўся сенажаццю ад вайны аж да 1970 года, а пасля аддаў сенажаць у арэнду А. Таму ён набыў уласнасць на сенажаць з-за даўнасці. Ці можа ён патрабаваць праз суд сцвярджэння, што ён набыў уласнасць з-за даўнасці?

**Адказ:** Калі А. атрымала акт уласнасці ў парадку, прадугледжаным законам ад 26 X 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, то Р. не можа патрабаваць, каб суд сцвердзіў, што ён набыў уласнасць з-за даўнасці. Суд звязаны актам уласнасці і не можа яго змяніць, або прызнаць уласнасць іншай асобе, нават калі б акт уласнасці быў выдадзен нязгодна з законам. Гэтакі акт можна быць абжалаваны ў адміністрацыйным парадку. Калі Р. браў удзел у адміністрацыйным працэсе, у якім А. атрымала акт уласнасці, а гэты акт стаў правамоцным, то няма ніякай дарогі да яго аспрэчвання. Калі Р. аб гэтым працэсе не ведаў, то можа ён звярнуцца да ваяводы з просьбай аднавіць працэс і разгледзець справу нанава. У ніякім выпадку да кампетэнцыі суда гэтыя справы не належаць.

## Ці ведаеце, што...

...у Беластоцкім ваяводстве існуюць 252 вучнёўскія спулдзельні, з якіх 169 дзейнічаюць у вясковых школах. Яны аб'ядноўваюць каля 44 тысяч вучняў. Найбольшых поспехаў у працы дабілася вучнёўская спулдзельня пры школе механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове.

(ця)

## Вер-не вер

Сніцца мне, што я хачу змяняць сваю кватэру. І вось бачу нейкі стары дом, прыгожы, элегантны, але, агульна можна сказаць, занядбаны. Адзін пакой у ім — гэта нібы музей, стаіць там старадаўняя мэбля, ёсць мноства каштоўнасцей, нейкія старыя грошы, скульптуры. Здаецца мне, што ў гэтым пакоі нельга жыць. Далей бачу спальню — таксама прыгожую, у старынным стылі. Бачу я і яшчэ адзін пакой — але гэты ўжо стары, брудны, занядбаны. Я хацела яго прывесці ў парадак. На дадатак з яго вакна відаць быў сметнік; лазіў па ім кот. Побач стаяла нейкая бальніца.

І вось я стаю і думаю, ці варта замяніць сваю кватэру, і не ведаю, што рабіць.

І вось пасля я быццам гавару з адным прыяцелем, які ўжо не жыве. Я яго запытала, як гэта ёсць на тым свеце, а ён адказаў нешта, але што, я не памятаю. Раіў ён мне, як замяніць гэтыя пакоі на лепшыя.

Што можа абазначаць мой вельмі дзіўны сон?

Анна

Анна! Ваш сон сапраўды цікавы. Я ўжо не раз пісаў, што мяняць кватэру — пэўная здрада ў каханні. Але ж вы яе не змянілі, а толькі раздумвалі і раіліся са сваім сябрам — нябожчыкам, ды пыталіся, як гэта ёсць на тым свеце. А што ж ён мог вам сказаць? Таму ў вашай памяці і не адлюстраваўся яго адказ, бо яшчэ ніхто ніколі аб гэтым не расказаў.

Здрада ў каханні вам усё ж пагражае, ды наогул жыццё ваша дзіўнае і заблытанае: нягледзячы на гэта, умэбляваны пакой абазначае для вас поспех і задавальненне. Іншая справа, што ў гэтым усім ёсць нейкі фальш і залежнасць (каштоўнасці). Ды чакаюць вас нейкія плёткі (сметнік), якія будуць вынікаць ад хітрага і прадажнага прыяцеля (чорны кот лазіў па сметніку). Але з вас, як з гуся вада, сплывае гэта ўсё: вы бачылі бальніцу, а гэта абазначае прыбытак і поспех.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка! Працую я ў шпіталі, а дакладней — у радзільным доме. І вось два гады назад у час майго дзяжурства нарадзілася дзяўчынка, маці якой памерла пры родах. Дзяўчынка была сямімесячная, і два месяцы трымалі мы яе ў шпіталі. Мне вельмі шкада было дзіцяці, і, калі бацька забіраў яго са шпіталя, я спытала, ці магла б я часам наведаць маленства. Ён ахвотна згадзіўся. Выхаваннем занялася бабка, а я старалася ёй дапамагчы. Бацька дзіцяці таксама амаль штодзень прыходзіў. Гэта малады, 25-гадовы мужчына, вельмі сімпатычны. Спадабаліся мы адзін другому. А да дзіцяці я так прызвычаілася, што лічыла яго сваім. Ну, і мы пажаніліся. Забралі з сабой дзіця. Я клапачуся пра яго, як родная маці. А сваіх дзяцей я мець не магу. Жывем мы згодна і шчасліва. Толькі непакоіць мяне адно. Калі падрасце дзіця, ці захаваць у таямніцы, што я няродная маці, ці сказаць аб усім. Захаваць у таямніцы — напэўна справа нялёгкая, бо суседзі, знаёмыя ведаюць праўду, і невядома, ці ад чужых людзей дзіця аб усім не даведаецца. Задумоўваліся мы ўжо з мужам, мо выехаць як найдалей адсюль. Але неахвота — муж мае добрую работу, я таксама, у нас добрая кватэра, пакінуць усё і ехаць у невядомае... страшна робіцца, але страшна і на месцы аставацца.

Зіна з Б.

Зіна, ты прыгалубіла сірату ад яе нараджэння, узяла на сябе нялёгкі абавязак — выхаваць яе, замяніць ёй маці. Высакародна гэта! І не бойся будучыні. Не выязджайце нікуды, не ўскладняйце сабе жыцця. Не трэба скрываць праўды, і калі дзіця падрасце, трэба яму аб усім сказаць. Толькі далікатна, псіхіка дзіцяці вельмі ўражлівая. Дзіця, выхаванае табой, не памятае мінулага. Яно памятае толькі цябе. Ты яму маці, і калі будзеш да яго добрай, сардэчнай, калі не адчуе ад цябе крыўды, тады і перажываць яно не будзе. Ведаючы аб усім, яно не будзе браць да сэрца ўсяго таго, што можа пачуць ад чужых людзей.

**Сэрцайка**



*На сенажаці.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## Куток практычных ведаў




### ШЫБЫ І ЛЮСТРЫ

Добрая гаспадыня мые вокны часта, хаця, як кажуць, і праз чыстыя шыбы можа быць відочны той жа сметнік.

Традыцыйны спосаб мыцця шыб вадою даволі працахлонны. Намнога лягчэй і пры мінімальнай працы можна прывесці вокны ў парадак пры дапамозе сучасных сродкаў, напрыклад, вадкасці „Эва“, „Сілюкс“ ці „Крышталь“.

Выцершы вокны ад пылу, трэба памыць вокны сцірачкай, змочанай у адной з пададзеных вышэй вадкасцей, а пасля гэтага іншай чыстай сцірачкай выціраць вокны насуха. Гэтыя прэпараты не пакідаюць ані асаду, ані плям. Вокны і люстры, калі чысціць іх гэткім спосабам вельмі лёгка ўтрымаць у чысціні.

Такім чынам, варта спрабаваць! Прэпараты гэтыя недарагія, а ашчаднасць часу і сілы вялікая. А гэта ж найважнейшае!

Для чышчэння ваконных рам, дзвярэй і іншых лакіраваных прадметаў нельга выкарыстоўваць парашкоў для мыцця бялізны — іх дзеянне занадта моцнае. Лак тады траціць бляск, жоўкне, а праз нейкі час фарба пачынае адпырсквацца. Для чышчэння лакіраванай паверхні найлепш падыходзіць нейкая вадкасць для мыцця посуду, як напрыклад, „Ціп-топ“, „Кухцік“, „Людвік“, „Скшат“ або парашок „Явокс-2“. Можна таксама прымяняць парашок „Іксі“, толькі больш разведзеным.

**Гаспадыня**








Бяссільны расправіцца з легендарным Мухам-Міхальскім з дапамогай паліцыі, дэфензівы і шматлікіх карных экспедыцый, урад буржуазнай Польшчы вясной 1924 года выкарыстаў самы подлы сродак: за галаву Мухі-Міхальскага была ўстаноўлена вялікая ўзнагарода. Пра гэта ва ўсе месцы, дзе дзейнічалі партызаны, быў разасланы спецыяльны цыркуляр. Вось амаль даслоўны тэкст гэтага дакумента, накіраванага палескім ваяводам Даўнаровічам старасту ў Столін:

„Вельмі тэрмінова, зусім сакрэтна.

Прэзідыум Палескага ваяводства. № 1131.

Брэст над Бугам. 9 мая 1924 г.

Змест: аб назначэнні ўзнагароды таму, хто зловіць Муху-Міхальскага.

Пану старасту ў Століне (асабіста).

Па прапанове міністра ўнутраных спраў пан старшыня Савета Міністраў назначыў узнагароду ў памеры 10 мільярдаў марак(!) таму, хто зловіць... Муху-Міхальскага. Акрамя таго, назначыў узнагароду да 5 мільярдаў марак таму, хто праўдзівай інфармацыяй органам паліцыі будзе садзейнічаць пры затрыманні памянёнага партызанскага атамана...

Права на гэтую ўзнагароду маюць таксама работнікі знешняй службы (дэфензівы) і следчых органаў, якія самастойна або ў выніку сумесна арганізаванай акцыі супроць Мухі-Міхальскага дасягнуць пастаўленай мэты.

Аб вышэйсказаным, пан стараста, неадкладна давядзіце да ведама падначаленых вам органаў паліцыі і канфідэнтаў. Падрабязна распрацаваны план затрымання атрада Мухі-Міхальскага і яго самога патрэбна неадкладна прадставіць мне“.

Далей у дакуменце ўказвалася, што дзеянні супроць Мухі-Міхальскага неабходна „пачаць неадкладна і праводзіць іх энергічна, усімі наяўнымі ў распараджэнні сіламі... У выпадку станоўчых вынікаў пан стараста абавязаны прадставіць у ваяводства кандыдатаў да ўзнагароджання, паведаміць пры гэтым падрабязна пра ўдзел кожнага з іх у затрыманні Мухі і ўказаць, як падзяліць узнагароду паміж кандыдатамі...

Названая сума будзе перададзена старасту неадкладна. Гэтую справу трэба разумець як вельмі тэрміновую і аб ходзе акцыі прадстаўляць падрабязныя паведамленні“.

Здраднікаў не знайшлося. Шматлікай агентуры паліцыі і дэфензівы так і не ўдалося пранікнуць у атрад Мухі-Міхальскага. Народ старанна аберагаў свайго абаронцу і яго байцоў. Амаль у кожным населеным пункце ў Арлоўскага былі свае надзейныя, правераныя людзі — разведчыкі і сувязныя. У шэрагу вёсак людзі Арлоўскага працавалі солтысамі. У Дзяніскавічах — Фама Карпеня, у Кулянях — Станіслаў Федаровіч, у Пашкаўцах — Юрый Станкевіч.

Станкевіч не выклікаў у сышчыкаў ніякага падазрэння. Да яго, як да солтыса вёскі, некаторыя жыхары якой былі ў атрадзе Мухі-Міхальскага, не раз звярталіся паліцэйскія чыноўнікі з роспытамі пра Муху-Міхальскага і яго байцоў. Солтыс адказваў, што размоў пра партызанскага атамана яму, солтысу, даводзіцца чуць шмат, а вось самога Муху-Міхальскага ён не сустракаў і нават не ведае, дзе той знаходзіцца. Солтыс гаварыў гэта і тады, калі Арлоўскі разам са сваімі хлопцамі знаходзіўся... побач, у каморы солтыса. Не раз выручаў Станкевіч народных мсціўцаў, папярэджваў іх пра карныя экспедыцыі.

Але аднойчы ледзь не спазніўся...

У той хмурны асенні дзень Кірыла Арлоўскі, Васіль Корж і Васіль Клёпка пасля чарговай аперацыі адпачывалі на сене ў гумне Ільі Трыбухоўскага, жыхара вёскі Пашкаўцы. Гумно стаяла наводшыбе. Гаспадар быў тут жа: разам са сваёй дачкой Соняй ён малаціў жыта. Прыкметна хвалюючыся, у гумно ўвайшоў солтыс.

— Ілья, думаю, ты ведаеш, дзе знаходзіцца Муха з хлопцамі. Скажы ім, што вёска ачэплена паліцэйскімі і салдатамі. Шукаюць іх, — не вітаючыся, папярэдзіў ён аднавяскоўца.

— Мы тут, — саскочыў зверху Арлоўскі. — Я ўсё чуў. Вялікае дзякуй, Юрый Мікодымавіч!

— Выходзіць з гумна не раю: паліцыя ўжо расставіла пасты, абавязкова заўважаць вас. Трэба хавацца тут, — параіў, адыходзячы, Станкевіч.

— Давайце глыбей зашыемся ў сена, а Соня з дзядзькам Ільёй яшчэ і закідаюць нас, — прапанаваў Васіль Клёпка.

— Не, не, толькі не гэта. Паліцыя, калі зойдзе ў гумно, абавязкова будзе шукаць у сене, штыкамі будзе пароць... Трапіш, як лісіца ў саладуху, — не пагадзіўся Арлоўскі. — Думайце, думайце ўсе.

— Правільна, сынок, — падтрымаў яго Трыбухоўскі. — Вось што: давайце я схаваю вас у кулях саломы.

Часу на роздум не заставалася. Рассунуўшы кулі, гаспадар схаваў там спачатку двух Васілёў — Каржа і Клёпку, а затым Ілья Трыбухоўскі тое ж зрабіў і з самім камандзірам.

# ТРЫБУНА чытачоў

**У след за напільнікамі**

## ДЗЕ КУПІЦЬ АЛОВАК?

Дарагая „Ніва", напільнік я купіў у Саколцы на таўкучцы, рускі, за 25 зл. Вельмі добры. А завесаў да вокан нідзе няма. Відаць, прамысловая прадукцыя перайшла на іншыя прылады, аб недахопах якіх пісалі ў „Ніве".

А я рашыў сёння напісаць яшчэ, што няма дзе купіць сталярскага алоўка, які ў гаспадарцы вельмі патрэбны. Бо як не абазначыш кавалак палена ці дошкі, дык не распілуеш, дзе трэба. Прашу цябе, „Ніва", парай, дзе купіць такі аловак.

**Э. Ш.**

**Ад рэдакцыі:** А мы ў сваю чаргу просім ВЗГС у Беластоку, парайце, дзе купіць такі аловак.

## НА ДАРОЗЕ

У рамках партыйнага чыну на тэрыторыі Дубіцкай гміны людзі працавалі ў асноўным на дарозе Дубічы—Вітава. Рабілі тут таварышы з розных вёсак: Дубічы Царкоўныя, Чэхі Арлянскія, Істок, Вітава і іншыя. Выкапалі патрэбных равоў больш, як 300 метраў. А равы капалі шырокія, бо ў недалёкай будучыні плануецца на гэтай дарозе, цяпер жвіраванай, пралажыць асфальт.

**М. Панфілюк**




### МІТРАФАН

Быў у Гароднік Мітрафан,
Жыў сабе ён, нібы пан,
Як стала цётка паміраці,
Сам баяўся быці ў хаці.
А як цётка памерла
І прыйшла страшыці,
Мітрафан давай хутчэй
З хаты ўцякаці.
Цётка на гару пайшла
І печы разбірае,
Мітрафан сядзіць ў суседа
Й чарку папівае.

**М. Л.**

### НОЧ У СЯЛЕ

Цёмная ноч агарнула будоўлі,
Чутна браханне сабак,
Там дзесь авечкі бляяць у аборы,
То зноў сычы закрычаць.

Певень прачнуўся і заспяваў,
Хтось дзесь дзвярыма застукаў,
Скрыпнула дрэва,
Рэха вецер пагнаў...

**Пятрусь Гіншт**

## ЗАНІКАЮЧЫЯ КУЛЬТЫ

Сярод жыхароў Бельшчыны існуюць дзе-недзе старадаўнія культы прыроды і прыродазнаўчых з'яў, якія сваімі каранямі ляжаць у язычастве. Вякамі гэтыя культы высмейваліся, лічыліся забабонамі, аднак пратрывалі аж да нашых часоў. Некаторыя надзвычай трывалыя, і на іх я звярнуў увагу, а менавіта на культ зямлі, вады, месяца, агню і перуна.

Культ месяца — слуўбу ў полі і агародзе распачынаюць на нові месяца. Лічыцца, што лепш зерне ўзыдзе і лепш будзе расці. Таксама будову хаты або іншую важнейшую будову распачынаюць пры маладым месяцы. Убачыць маладога месячык з правага боку — добры знак.

З вялікай пашанай адносяцца да зямлі. Зямлю называюць мацерай, не нельга біць, смагаць бічом, часта звяртаюцца да зямлі ў клятвах.

Даволі шырока распаўсюджаны культ вады. Вада з крынічак ачышчае ад усялякіх скурных хвароб.

Таксама моцны культ перуна. Яго часта выклікаюць, каб выдаў суд і справядлівасць. Да перуна адносяцца з боязню. У веруючых сем'ях у час навальніцы стаўляць ў акне грамнічная свечка. Запаленай грамнічнай свечкай хрысціць галаву чалавека. Такі крыж мае ўсцерагчы ад перуна.

Таксама з боязню адносяцца да агню. Агню, распаленага ў печы, нельга заліваць вадой, нельга плюнуць на распаленыя да чырвана дзверцы кухоннай пліты.

З дрэў у пашане знаходзіцца рабіна. Старэйшыя людзі асцерагаюць, каб рабіны не зрубалі на тычкі для фасолі, бо будуць балець зубы.

А са звяроў найлепшай пашанай цешыцца ласічка. Не таму, што ловіць мышэй, але таму, што калі яна задамовіцца, дык авечкі будуць каціць толькі авечачак, а каровы цяліць толькі цялушачак, інакш кажучы, будзе расці прыбыль у дамашняй жывёле.

**М. Л.**

## БУДОВА РАСПАЧАТА

У вёсцы Тафілаўцы распачалася пабудова святліцы разам з рамізай. Аб'ект будуюць тры майстры, і спадзяемся, што да зімы ён будзе закончаны, бо работа ідзе хутка і спраўна. Варта прыпомніць, што прасцейшыя працы былі выкананы грамадскім чынам жыхароў вёскі.

**М. Панфілюк**




## ЦІ ГЭТА РЭЗЕРВЫ?

У апошні час жыхары гміны Нараўка куплялі качанят. Ім паведамілі, што ўсім жыхарам гміны качаняты будуць прывезены толькі ў сядзібу гміны (у нашым выпадку ў Нараўку) каля школы, на 11 гадзіну. У гэты дзень сабралася 50, а мо і больш асоб, у асноўным былі гэта жанчыны. Чакалі качанят. Але Беластоцкае драбярскае прадпрыемства не стрымала слова. Людзі чакалі аж да гадзіны 16. Ліў дождж, і людзі бегалі па хатах, каб схавацца і пагрэцца. Ані тэлефоны, ані інтэрвенцыі ў Гайнаўцы не дапамаглі.

І дзе ж тут гаварыць пра рэзервы і пра пашану да людзей з боку спамянутага прадпрыемства, калі яно прымушае 50 асоб траціць 5—6 гадзін каштоўнага часу вясною, калі столькі работы ў полі?

**Аляксандр Закройшчык**

## ЧАГО ХОЧУЦЬ ЖЫХАРЫ БАБІКАЎ?

Аўтобус ПКС, які едзе з Саколкі праз Бабікі ў Слойку, даязджае толькі да Слойкі. А як трэба чалавеку ехаць у Шудзялава, дык чакай у Слойцы аўтобуса з Саколкі ў Крынкі. А чакаць часам трэба і гадзіну. Таму жыхары Бабікаў просяць дырэкцыю ПКС, каб аўтобус з Саколкі праз Бабікі ішоў аж у Шудзялава. Ад 1 ліпеня не будзе ўжо гміны ў Бабіках, і людзі ў Шудзялава будуць ехаць з такіх вёсак, як Войнаўцы і Номікі — 15—17 кіламетраў. Мы думаем, што такая прыслуга з боку ПКС не будзе цяжкай, а нам, людзям тутэйшым, стане вялікай палёгкай.

**Віт**

## ПА БАКАХ РАКІ БЕЛАЙ

Рака Белая раздзяляе горад Бельск на дзве часткі. Частка горада з правага боку, асабліва ў апошнія гады, усё больш і больш будуецца, ды жыхары тут вымушаны карыстацца вадой з уласных калодзежаў. А вада гэтая не заўсёды бывае добрай якасці. Розныя хімічныя вырабы, якія ўжываюцца ў хатняй гаспадарцы, робяць гэтую ваду непрыгоднай для піцця.

З левага боку ракі Белай большасць жыхароў карыстаецца вадой з водаправода. Добра было б, калі і правы бок горада (вуліцы Відаўская, Дубічы, Галавеская) таксама мог карыстацца гарадскімі водаправодамі.

**Мікалай Няплоха**




**Эдвард Шчасновіч**, Шчасновічы. Вы скардзіцеся, што калі вольная субота, дык газеты вам, у тым і „Ніву", прыносіць аж у панядзелак. Просіце нас памагчы атрымліваць вашы любімыя газеты ў суботу. На гэту тэму мы і пісалі ўжо і даведваліся ў беластоцкім кальпартажы. Нам абяцалі палепшыць справу. У кожным выпадку і ваш ліст перададзім беластоцкаму „Руху", дабіваўца трэба сваіх правоў.

**Марко.** Над вершамі вам трэба многа працаваць, незалежна ад таго, ці пішаце літаратурнай моваю ці на дыялекце. „Ружу" і „Успамін" надрукуем. А вось заметка са здымкамі добрая. Працуйце над здымкамі — больш вастраты, больш кантрасту.

**Га-Та.** Заўсёды рады атрымаць вашу публікацыю, так лёгка пішаце, каб толькі больш і часцей пісалі, згода?

**Дыяна.** Вершы атрымалі. Задоўгія вершы пішаце і ў такім выпадку яны часта перастаюць быць вершамі. Некаторыя спрабуем друкаваць, скарацінуўшы. І яшчэ малая просьба, каб пісалі выразней.

**Карэспандэнтам**, якія прыслалі віншаванні ў сувязі з узнагароджаннем мяне Сярэбраным Крыжам Заслугі, сардэчнае дзякуй! (В. Валкавыцкая)




3.06.76 г. а 5 гадзіне раніцы, на некантраляваным чыгуначным пераездзе, непадалёку ад Кляшчэляў цягнік, які ехаў з Любліна ў Беласток, забіў 20 кароў 4-ох гаспадароў з Кляшчэляў.

31.05.76 г. у Гайнаўцы на скрыжаванні вуліц 1-га Мая і Ліповай Францішак Ш. з Гайнаўкі наехаў матаролерам „Камар" на трактар Уладзіміра Н. з вёскі Чыжыкі. Францішак Ш. паранены.

31.05.76 г. а 7.30 у вёсцы Новае Беразова Галінка О. (13 гадоў) з Койлаў выбегла на вуліцу проста пад колы матацыкла „МЗ", якім ехаў Мікалай Я. з Падрэчан. Параненую Галінку завезлі ў бальніцу.

## КАБ ЛЕПШЫЯ БОТЫ ДА РАБОТЫ

Вядома, што на палявыя работы, як трэба араць, баранаваць, ці мінеральнае ўгнаенне падсяваць, нічога іншага не абуеш, як гумовыя боты. Спрабуй абуць туфлі, дык набярэш столькі зямлі, што ісці не зможаш.

Але хто ў гумовых ботах не хадзіў вясной ці летам, той толькі не ведае, што такое хадзіць у іх у гэты час. Ногі парацца, прэюць так, што цяжка вытрымаць, але мус, бо іншых ботаў няма. Ці ж не магла б наша прамысловасць прадукаваць боты не з адной гумы? Так, як, напрыклад, у Савецкім Саюзе прадукуюць так званыя боты „керзавыя" — спод гумовы, усцілка і перады раменныя, а халявы з брызенту. Боты такія лёгкія, і нага ў іх не пацее. А мы носім гумовыя боты і называем іх „раматысякамі", таму што ад ботаў гэтых можна хутка захварэць на рэўматызм.

**Віт**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## НА ТЭМУ БРЫДКАГА ЎЧЫНКУ

Наш чытач з Орлі ў 17 нумары апублікаваў скаргу на прадаўшчыцу крамы ў Орлі, падаючы канкрэтны прыклад, як брыдка прадаўшчыца абышлася са старым чалавекам. Арлянскі ГС даследаваў справу і сцвердзіў, што такі выпадак сапраўды быў, але, здаецца нам, прымяніў у адносінах да вінаватай заслагодную кару. Хочацца верыць, што прадаўшчыца Яўгенія Сахарэвіч сама зразумее адну вялікую жыццёвую праўду: што чалавек — гучыць горда, і сваім далейшым жыццём і працай апраўдае гэтую назву.

А вось адказ праўлення ГС у Орлі.

W związku z ukazaniem się notatki w tygodniku „Niwa" Nr 17 (1052) z 25.IV.1976 r. pt. „Brzydki uczynek" przeprowadzono postępowanie wyjaśniające, w wyniku którego stwierdzono, że opisany wypadek rzeczywiście miał miejsce w dniu 20.III.1976 r. we wspomnianym sklepie.

Mając na uwadze dotychczasową nienaganną pracę sklepowej Sacharewicz Eugenii — Zarząd Gminnej Spółdzielni udzielił kary porządkowej w postaci upomnienia z zaznaczeniem, że w razie powtórzenia się podobnego postępowania, zostaną wyciągnięte wnioski aż do zwolnienia włącznie.

Za powstały incydent Zarząd GS serdecznie przeprasza autora notatki Kubajewskiego Aleksandra.

**Prezes Zarządu**
**M. Jarmowicz**

## ПРА КУЗАЎСКУЮ ВУЛІЦУ

У 17 нумары „Нівы" з гэтага года наш карэспандэнт апублікаваў інфармацыю пад загалоўкам „Ці кузаўцы не заслужылі?" Пісаў ён у ёй, што ўжо некалі пра кузаўскую вуліцу пісалася і гміна абяцала рамонт, але яго не зрабіла. І што кузаўцы ў сувязі з такімі адносінамі да іх страцілі ахвоту да грамадскіх пачынаў. Ніжэй прыводзім адказ начальніка гміны ў Чаромсе, каментарый пакідаючы нашаму карэспандэнту.

W odpowiedzi na notatkę prasową w Waszej gazecie pragnę wyjaśnić co następuje:

Stan ulic w gminie Czeremcha daleko odbiega od stanu zadowalającego. W roku 1973, kiedy powstała gmina, nie było ani jednego mb drogi o nawierzchni asfaltowej. Wiele od czasu utworzenia gminy zrobiono na odcinku budowy, modernizacji i konserwacji dróg.

Wiele zrobiono w ramach czynów społecznych, między innymi wybudowano około 10 km drogi do Zubacz, ul. Kolejową, Fabryczną w osadzie Czeremcha itp. Jednak wszystkiego od razu zrobić nie można, musi być pewna hierarchia potrzeb i kolejności w wykonywaniu dróg i ulic. Budowaliśmy drogi ważniejsze z punktu widzenia gospodarczego i ekonomicznego.

Nikt z mieszkańców Kuzawy łącznie z sołtysem nie zgłosił konkretnych propozycji, co do naprawy ulicy we wsi. Mieszkańcy powinni wybrać Komitet Czynowy, przedłożyć konkretne propozycje, co do świadczeń w robociźnie lub w materiałach wynoszące 50% nakładów. Przy takim podejściu do sprawy napewno znaleźliby poparcie władz gminnych, pomimo bardzo skomnych środków na poparcie czynów społecznych, które w br. wynoszą w naszym budżecie zaledwie 100 tys. zł.

**Naczelnik Gminy**
**mgr inż. Sergiusz Sac**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

— Калі карнікі знойдуць нас, выскоквайце з кулёў і кідайцеся на іх, — вучыў камандзір сваіх таварышаў. — А ты, Соня, прывядзі ў парадак месца, дзе мы ляжалі на сене. Калі прыйдуць паліцэйскія, як быццам крадком пазірай туды, — Арлоўскі разлічваў, што гэта можа адцягнуць увагу карнікаў ад кулёў.

Так яно і выйшла.

— Хаваеш у сене камісараў! — вызвернуліся на Соню паліцэйскія і, груба адштурхнуўшы яе, пачалі раскідаць сена, пароць яго штыкамі і шомпаламі.

— Паночкі, ніякіх камісараў я не бачыў. Дарэмна вы дачку крыўдзіце, — заступіўся за Соню бацька.

— Маўчаць! Ведаем мы вас! — падскочыў да Ільі Пятровіча афіцэр.

Старанна перапароўшы сена і салому, зазірнуўшы ледзь не ў кожны куточак, паліцэйскія так і не здагадаліся паглядзець у кулі. Лаючыся і злуючыся, яны пайшлі з гумна.

Яшчэ не адзін раз Юрый Станкевіч і Ілья Трыбухоўскі выручалі Арлоўскага і яго байцоў.

Як пісала адна варшаўская газета, пра Муху-Міхальскага гавораць усе: і багаты польскі памешчык, які баіцца яго візіту, і збяднелы беларускі селянін, які з натхненнем складае пра яго легенды.

Легенды пра атамана Муху-Міхальскага, пад імем якога выступаў Кірыла Арлоўскі, дайшлі і да нашых дзён. У вёсцы Куляні вам раскажуць, як Муха-Міхальскі ў форме палкоўніка польскай арміі хадзіў па вуліцах Баранавіч, або як Муха-Міхальскі дапамагаў ганчару „прадаваць гаршкі" на кірмашы ў Ляхавічах.

Аднойчы ўлетку 1923 ці 1924 года, пераапрануўшыся ў сялянскае адзенне, Арлоўскі ездзіў у Ляхавічы на кірмаш разам з ганчаром з вёскі Ганевічы. Конь у ганчара быў стары. Арлоўскі пашкадаваў ганчара і па дарозе з Ляхавіч даў яму грошай на маладога каня.

Мімаволі ўспамінаюцца радкі з варшаўскай газеты „Момант": „Муха страшны для багатых, памешчыкаў і купцоў, але ён робіць шмат добрых спраў для бедных. Сустрэў ён неяк селяніна на клячы і даў грошай, каб той купіў добрага каня. У другім выпадку даў грошай беднай удаве на карову".

Як мы бачылі, грошы на каня Арлоўскі на самай справе даваў селяніну. Легенда перастала быць легендай: за ёй стаіць сапраўдны факт.

А як жа з легендай пра бедную ўдаву, якой Муха даў грошай на карову? І тут сапраўднасць. С. І. Бацечка ўспамінае, што аднойчы Арлоўскі зайшоў напіцца вады да жыхаркі вёскі Пашкаўцы Паўліны Лініч. Жылі яны ўдзвюх з цяжка хворай дачкою. Дзён за некалькі перад тым у Паўліны за патраву паліцэйскія адабралі карову, і ўдава расказала пра сваё гора.

— Так, бедна, вельмі бедна ты жывеш, маладзіца, — сказаў Арлоўскі і даў Паўліне Лініч грошай на карову.

*(Працяг будзе)*

# ПАРАДЫ АДПУСКНІКАМ

Лета. Пара сонца, цеплыні і заслужанага адпачынку. Да адпачынку, у адрозненне ад работы, нельга падыходзіць лёгкадумна. Таму мы і вырашылі даць вам некалькі парад.

Пачнем з турызму. Гэта — лепшы адпачынак. Ён заключаецца ў тым, што людзі ходзяць пеша там, дзе маглі б і ехаць.

У турыстычным паходзе мы раім ісці ланцужком, прычым самага моцнага ставіць апошнім. Ён будзе падбіраць і несці кінутыя ўсімі рэчы.

Перш чым памыцца ў рэчцы, паглядзіце, што робіць турысцкая група, якая размясцілася вышэй па цячэнню. Магчыма, яна ўжо закончыла абедаць і мые ў рэчцы посуд.

Калі да вашага кастра падышоў воўк, хавайце ўсё спіртное: па яго следу могуць прыйсці паляўнічыя.

Дача — кузня здароўя! Дачны адпачынак заключаецца ў тым, што людзі плацяць грошы за тое, што ў турыстычным паходзе яны мелі б бясплатна.

Пастарайцеся адразу ж пасябраваць з сабакам гаспадароў: будзе ў каго пераначаваць, калі з горада прыедуць госці.

Дачны адпачынак вы можаце ствары ць і ў гарадскіх умовах. Для гэтага адключыце ваду, газ і святло і аддайце дзве тысячы злотых суседцы. Калі ж вы любіце дачу з тэрасай, выйдзіце на балкон і аддайце суседцы яшчэ пяцьсот злотых.

Увогуле ж дачны адпачынак — рэч даволі прыемная. Але яшчэ больш прыемная думка, што дача не ваша ўласная і на будучы год сюды можна не прыязджаць.

Узбярэжжа! Сюды звычайна імкнуцца людзі, якія недастаткова стаміліся за адзінаццаць рабочых месяцаў.

На ўзбярэжжы хадзіце ў лямцавым капелюшы і цёмных акулярах, прыкрываючы нос паперкай. Гэтак вас не змогуць пазнаць сяброўкі жонкі.

Не заплывайце далёка ад берага. Памятайце, зямля на пляжы належыць усяму народу.

Дарэчы, вы можаце апынуцца на беразе мора і не выходзячы са сваёй кватэры. Для гэтага вазьміце тазік, наліце ў яго ваду, укіньце драбочак солі і апусціце туды ногі. Калі вада даходзіць толькі да шчыкалатак — лічыце, што вы на Пуцкім заліве. Калі вада даходзіць да каленяў — можаце лічыць, што вы на паўвыспе Гэль. А калі ў вас вялікая сям'я і ўсе хочуць паставіць ногі ў адзін тазік — значыць, вы ў Сопаце.

Засвоіўшы нашы парады, смела ідзіце ў водпуск. Пасля летняга адпачынку вы будзеце здольныя на любую работу, нават разумовую.

### УСЁ ПРАДБАЧАНА

Прыходзіць Парфен да Кастуся:

— Хачу, Кастусь, у цябе даведацца, як ты на базар дабіраешся. Я ўжо тройчы галасаваў на дарозе — ніводная машына не ўзяла... Што за чартоўшчына?

— Вось дзівак! — усміхнуўся Кастусь, — а я дабіраюся... Я ж заўсёды галасую з паўлітрам...

— Гэта ўжо занадта! — кажа Парфен, — траціць нейкі замухрышка, нажлукціца і пачне дарогаю гарох лушчыць...

— Не кажы, Парфен. У мяне ўсё прадбачана: я ў пляшку наліваю ваду, толькі затычку гарэлкаю краплю, каб пахла...



*А ў кіно вы яго водзіце?..*

# НІЎКА













*Чаго ў спорце не бывае!*



...У ім загаварыла сумленне, ды, паколькі ў яго быў пяважпы слых, ён нічога не разабраў.



*Ва універмазе.*

### ВЯСКОВЫЯ ПРЫПЕЎКІ

*

Вось праява дык праява —
Пахіліўся дом направа.
Вінаваты будаўнік,
Бо „налева" цэмент знік.

*

У мясцовым магазіне
Шмат тавараў на вітрыне,
А загмага просіць Саўка:
— Мне прадайце з-пад прылаўка.

*

У дарозе лектар недзе
Заліваe за каўнер.
Спадзяёмся, што прыедзе
Пасля дожджыка ў чацвер.

**Іван Шашок**
**Андрэй Буглак**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Спыталі ў габраўца, чаму ён на кожным прыпынку выходзіць з трамвая і заходзіць потым з другой пляцоўкі.

— Каб сказаць кантралёру, калі будзе праверка, што я толькі што сеў.

*

Папрасіў сусед у Эпендзі вяроўку. Эпендзі сказаў:

— Вяроўкі даць не магу: жанчыны развесілі на ёй муку.

— Хіба на вяроўцы развешваюць муку? Такога ніколі не было, — здзівіўся сусед.

Тады Эпендзі сказаў яму:

— Я і сам ведаю, што не развешваюць. Але ж хіба цяжка зразумець з маіх слоў, што я не хачу даць табе вяроўку?

### ПАСПЯШАЎСЯ

— Міколка, няўжо ты так хутка прачытаў гэтую кнігу? — запыталася бібліятэкарка.

— Але, прачытаў.

— А кніжка цікавая?

— Я так хутка яе чытаў, што не паспеў зразумець.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе А. Троц з Рудут, Г. Юзвюк з Барысаўкі, Н. Нікіцюк са Ступнік, Г. Лук'янюк і І. Касцючук з Кожына, Я. Анішчук, Я. Апалінскага, Ю. Якімюка, Л. Андрэюка з Зубава, З. Іванюк і У. Парфенюка з Трашчотак змяшчаем песню

## Gdy przyjdziesz dzisiaj wieczorem

**Słowa: Elżbieta Horbaczewska**
**Muzyka: Janusz Sławiński**
**Śpiewa: Edward Hulewicz**

Księżyc na dachy kładzie
Bezczelnie długi cień
Zaczepia nosem gwiazdy
Znów czegoś od nich chce.
Zagląda w cudze okna
Ze śmiechu cały drży
Śmiejąc się strąca gwiazdy
Prosto pod twoje drzwi.

Gdy przyjdziesz
Dzisiaj wieczorem
Przynieś mi
Słowa spragnione. A jeśli —
Tu jutro przyjdziesz
Nad ranem
Przynieś mi
Słowa kochane.

Już ciemno w każdym oknie
A na balkonie Twym
Chociaż świat cały moknie
Słodko pelargonia śpi.
A mnie tak strasznie ciasno
Dzisiaj w Twoim śnie
Zanim latarnie zgasną
Ze snu swojego wypuść mnie.

Gdy przyjdziesz
Dzisiaj wieczorem
Przynieś mi
Słowa spragnione. A jeśli —
przyjdziesz za wcześnie
przynieś mi
pierwsze czereśnie.

## ГУМАР З

### КАБ ДАЎЖЭЙ НАСІЛАСЯ

— З якой нагоды ты ўжо трэці дзень напіваешся?

— Шапку прыліваю, каб даўжэй насілася.

— Якую шапку?

— Купіў пазаўчора ў краме.

— А дзе ж яна?

— Недзе ўчора згубіў.





# КУРЁЗЫ

### ПАЎЛІТРА СЛЁЗ

„Слёзнік" — пасудзіна для захавання слёз — гэтак жа неабходны кожнай жанчыне, як пудра, губная памада і насоўка, сцвярджаюць іранскія гандляры. Яшчэ рымскія патрыцыянкі збіралі і захоўвалі свае слёзы ў асобных ёмістасцях. Потым гэты звычай перайшоў у Візантыю. Карысталіся „слёзнікамі" і ў султанскіх гарэмах, бо існавала павер'е, што слёзы, змешаныя з ружовай вадой, маюць лекавыя ўласцівасці. Нарэшце, у сярэднія вякі „слёзнікі" трапілі ў Персію. Напоўненыя слязьмі, яны лічыліся неабвержным доказам вернасці жонкі і яе кахання, калі гаспадар сям'і надоўга ад'язджаў па справах. Цяпер гэты варварскі звычай знік, але самі „слёзнікі" зноў уваходзяць у моду. Праўда, вырабляюцца яны не з крышталю, а з простага каляровага шкла і да таго ж маюць шырокае рыльца, каб можна было плакаць, не размазваючы туш на вейках. Ёмістасць такой пасудзіны — паўлітра.

### САКРЭТ

Канадскага гумарыста Сцівена Лікока прасілі выТлумачыць, у чым сакрэт яго поспеху.

— Пісаць смешныя апавяданні зусім не цяжка! — адказаў Лікок. — Трэба проста ўзяць пяро, паперу, чарніла, сесці і пісаць, што прыйдзе ў галаву.

— І гэта ўсё?

— Паўтараю: пісаць не цяжка. Уся цяжкасць у тым, каб у галаву што-небудзь прыйшло.



**Каб рэгулярна атрымліваць ад свяціла цеплыню і святло, трэба строга трымацца сваёй арбіты.**